Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 60.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 480000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 75.000 мк., сярод тэксту 60.000 м. і на 4 стр. 50.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 19. Вільня, Нядзеля, 16-га сьнежня 1923 г. Год I.

## Барацьба за зямлю.

Сойм приступіў ужо да разгляду „ustawy o parcelacji i osadnictwie“ (уставу аб парцэляцыі і асадніцтве), што мае замяніць закон аб зямельнай рэформе.

Як усім ведама, сучасны ўрад утварыўся на аснове ўмовы, зробленай партыяй сялян-багатыроў („кулакоў“) „Пяст“ і так званай „Хіенай“, якая на выбарах выступала па сьпіску № 8. У гэнай умове польскія паны-абшарнікі згодзіліся на правядзеньне зямельнае рэформы, але з тым, каб кожын год надзялялі сялянам (ведама, за выкуп!) ня больш, як 400.000 гэктараў зямлі. Ясна, што гэткім спосабам правядзеньне зямельнае рэформы павінна-б было зацягнуцца на многа-многа лет! Але, спусьціўшы крыху часу, калі ўлада панскага ўраду ўмацавалася, паны прызналі, што нават і з такой агаворкай ім няма карысьці ад зямельнае рэформы: хоць і возьмуць добрыя грошы, ды зямля выскачыць з панскіх рук, і ўжо ня будзе ніякае магчымасьці трымаць вёску ў паслухмянасьці! Вось-жа паны і апрацавалі праект закону, які мае назоў „ustawa o parcelacji i osadnictwie“, ды аканчальна ліквідуе стары закон аб зямельнай рэформе, падмяняючы яго „асадніцтвам“ на нашых бяздольных „Kresach“. Землі *польскіх* паноў пры гэтым блізу зусім забясьпечаны ад падзелу: ня толькі не падлягаюць парцэляцыі тыя двары, якія маюць бравары (значыцца, распаіваюць народ гарэлкай!) і цукраварні, ці гадуюць насеньне траў і збожжа, ці, ўрэшце, іх уласьнікі „zasłużyli się Ojczyźnie“,—але, наагул, у першы чарод пойдуць пад парцэляцыю *двары ўласьнікаў-расейцаў і немцаў*, праданыя некалі ім на льготных варунках расейскім і нямецкім урадамі, а такжа землі праваслаўнага духавенства і царквоў (толькі не каталіцкіх!). І, ведама, дастануць гэную зямлю ня нашыя сяляне, што ад вякоў палівалі яе сваім крывавым потам, а „асаднікі“, насыланыя да нас з Польшчы дзеля ўзмацаваньня польшчыны на „Крэсах“.

Ясна, што і польскія сяляне *у сябе дома* зямлі ня ўбачаць! І гэткім парадкам панскі праект закону аб „парцэляцыі і асадніцтве“ крыўдзіць ня толькі беларускае і украінскае сялянства, але і чыста польскае.

Калі адбываліся выбары ў сойм і сэнат, дык, як беларуская і украінская, так і польская вёска праводзіла сваіх паслоў у Варшаву слявамі: *„на зямлю!“* Вось, усе тыя соймавыя клюбы, якія йшлі ў сойм з цьвёрдым жаданьнем споўніць народны наказ, дружнай грамадой выступілі на барацьбу з польскай панска-кулацкай большасьцяй, што падтрымлівае праект, роўназначны ліквідацыі зямельнае рэформы.

Бяз ніякага сумліву, панска-кулацкая большасьць пераможа злучаныя сілы „нацыянальных меншасьцяў“, „вызваленцаў“, „нацыянальнае работніцкае партыі“ і польскіх сацыялістаў і камуністаў: „правіца“ мае на колькінаццаць галасоў больш. Аднак, апазыцыя, да якое належаць і ўсе беларускія паслы, пастанавіла—у знак самага рашучага пратэсту проці страшэннае сялянскае крыўды—рабіць пры разгляданьні соймам гэнага закону *абструкцыю*, як мага зацягіваючы справу. На першым засяданьні сойму, на якім мелі прыступіць да чытаньня новага уставу, „вызволенцы“ шумам і крыкам прымусілі Сойм зьняць гэту справу з парадку дня. Аднак, надалей апазыцыя пастанавіла йсьці другой дарогай: да кожнага пункту уставу яна будзе падаваць нялічаныя папраўкі і бараніць гэтыя папраўкі, на што, згодна з соймавай інструкцыяй, даецца прамоўцу гадзіна часу.

Паўтараем яшчэ раз: перамога „правіцы“ ў гэтай справе не выклікае ніякага сумляваньня,—але пратэст „меншасьцяў“ і польскіх левых партыяў ня дасьць паном-абшарнікам зрабіць сваё нягоднае дзела цішком, няўзнак, баламуцячы і далей цёмных людзей. І мо' ўрэшце ўсе тыя, хто галасаваў на выбарах за „васьмёрку, зразумеюць, якую пятлю яны ўзьдзелі на шыю і сабе і ўсей сялянскай масе Польшчы.

---

**АД РЭДАКЦЫІ.** Гэта стацьця была ўжо зложана ў друкарні, калі прыйшла вестка аб тым, што сярод сябров партыі „Пяст“, якая за прэм'ерства п. Вітаса ганебна здрадзіла польскае сялянства дзеля карысьці абшарнікаў, *знайшлося пятнаццаць паслоў, у якіх у апошні мамэнт загаварыла грамадзкае сумленьне*: гэтыя пятнаццаць паслоў заявілі, што *ня могуць падтрымліваць праекту „уставу аб парцэляцыі і асадніцтве“*, і выступілі з партыі. Такім парадкам *пляны паноў-абшарнікаў аказаліся разьбітымі*: „правіца“ ня мае ўжо большасьці! І справу гэнага крыўднага для ўсяго сялянства Польшчы закону трэба лічыць *зьліквідаванай*.

---

## Сялянства у Польшчы і зямельная рэформа.

Палажэньне сялянства ў Польшчы заўсёды было вельмі цяжкае. Ніякае фальшаваньне гісторыі ня можа ўкрыць таго факту, што польская шляхта заўсёды панавала над селянінам і вызыск сваіх сялян заўсёды ставіла вышэй, чым незалежнасьць бацькаўшчыны. Усім добра вядомы той спраціў польскай шляхты проціў тых нясьмелых і палавінчатых рэформаў, якія хацеў увясьці Касьцюшка, каб, апіраючыся на сялянстве, бараніць незалежнасьць Польшчы перад пагрозай яе падзелу праз Расею, Нямеччыну і Аўстрыю, а таксама запрапашчэньне сялянскай справы ў Сойме 1831 г., дзякуючы чаму барацьба Польшчы проціў царскай Расеі ня мела спачуцьця ў шырокіх сялянскіх масах.

Цікава таксама зазначыць, што ўва ўсіх трох заборах паншчына была скасавана праз чужацкія заборчыя ўрады, а калі ў Галіччыне ўтварылася зноў штось-ці на манер нацыянальнага польскага ўраду, сяляне зноў адчулі гэтае, як праяву панскага вызыску і зьдірства. Адзін з правадыроў сялянскага руху Стоялоўскі пісаў тады: „Калі Польшча мае быць такою, якою была, альбо такою, якою цяпер ёсьць у Галіччыне, дык хай лепш яе ня будзе! Бо ў гэткай Польшчы для народу толькі горкі хлеб, нядоля і паніжэньне; бо гэткая Польшча зьяўляецца ганьбай перад усім сьветам, грахом перад Богам, а раем толькі для жмені самалюбаў бяз чэсьці і духу“.

Такія-ж адносіны былі і ў апошнія часы, калі польскія абшарнікі заклікалі нямецкія войскі, каб прадоўжылі акупацыю для ахароны іх маёнткаў перад польскім сялянствам.

Яшчэ горшым было палажэньне беларускага і украінскага селяніна, бо тут апрача эканамічнага і сацыяльнага вызыску істнаваў яшчэ нацыянальны і рэлігійны ўціск.

Нічога дзіўнога, што калі Польшча стала зноў незалежнаю, калі гэтая незалежнасьць стварылася ў мамэнт найбольшага падняцьця рэвалюцыйнае хвалі на Усходзе і Заходзе, польскія абшарнікі прымушаны былі лічыцца з патрэбамі сялянства і, каб заахвоціць іх да барацьбы за незалежную Польшчу, абяцалі яму зямлю, ухваляючы ў Сойме закон аб зямельнай рэформе. Але закон гэты не адразу стаў праводзіцца ў жыцьцё, бо мамэнт быў некарысны для абшарнікаў; трэба было пачакаць пакуль сялянства супакоіцца, калі можна будзе яго ашукаць і захаваць маёнткі ў сваіх руках. Пакавінчатая польская лявіца таксама ня выкарыстала гэтага мамэнту, нават тады, калі мела ў сваіх руках уладу, і спакойна глядзела на тое, як абшарнікі і прыватныя парцэляцыйныя суполкі вялі „дзікую“ парцэляцыю, нажываючы вялікія капіталы.

Выразьнікам інтарэсаў сялянства ў Сойме зьяўляліся дзьве партыі: Пяст і Wyzwolenie. Як тая, так і другая стаялі за выкуп абшарніцкай зямлі; а сяляне павінны быць надзелены зямлёю не бясплатна, а заплаціўшы досыць значную суму за надзеленую ім зямлю.

Каб зразумець, чаму прадстаўнікі сялянства ў Сойме выступілі з гэткай умяркаванай зямельнай праграмай, трэба бліжэй разгледзіць тое эканамічнае палажэньне сялянства ў Польшчы, якое вытварылася пасьля вайны.

Сусьветная вайна стварыла дужа памысныя абставіны для збыту сельска-гаспадарчых прадуктаў: вялізарныя запатрабаваньні для аправізацыі мільённых арміяў, разьбіцьцё сусьветнага рынку выклікалі вялікі ўзрост цэнаў на сельска-гаспадарчыя прадукты; з гэтага карыстала ня толькі абшарніцтва, а таксама і заможнае і сярэдняе сялянства, якое мела зьлішак на збыт. Селянін меў вялікія запасы грошаў, якія па старой прывычцы лічыў за сталую вартасьць і такім чынам спадзяваўся *купіць* за гэтыя грошы зямлі. Але адначасна эканамічна ўзмацавалася і абшарніцтва, якое таксама мела шмат гатоўкі і лепш чым селянін ведала, што папяровыя грошы ня маюць сталай вартасьці, дзеля гэтага абшарнік неахвотна прадаваў сваю зямлю. Вось чым тлумачыцца папулярнасьць лёзунгу польскіх сялянскіх партыяў аб *прымусовым выкупе* абшарніцкай зямлі, які тады знаходзіў послух нават сярод менш заможных сялянскіх масаў.

Ясна, што гэты лёзунг ня мог задаволіць сялянскай бедноты, асабліва ў нас у Заходняй Беларусі, дзе сялянства, эканамічна ўшчэнт зруйнаванае вайной, знаходзілася ў шмат горшых варунках. Але т. зв. „крэсы“ ня мелі свайго прадстаўніцтва ў Ўставадаўчым Сойме; самадзельна гэтыя слаі сялянства не маглі выступіць, як палітычны чыньнік; гэты рух мог разьвіцца толькі пры магутным падтрыманьні гарадзкога пралетарыяту, але прамысловасьць была зруйнавана, пралетарыят быў разрозьнены і бясьсільны. Заможны селянін быў адзіным палітычным чыньнікам сялянскіх масаў. Гэтым і тлумачыцца перамога пястоўцаў і вызваленцаў з іх зямельнаю праграмаю аб прымусовым выкупе абшарніцкай зямлі і парцэляцыі яе сярод сялянства, якое можа набыць гэтую зямлю за грошы.

Абшарнікі выкарысталі гэтыя палітычныя абставіны. Яны ўвайшлі ў паразуменьне з найбольш заможным сялянствам (партыя Пяст, на чале з Вітасам) і вынікам гэтага зьявіўся вядомы законапраект аб асадніцтве і парцэляцыі, які пакідаючы абшарнікам чуць ня ў цэласьці іхныя маёнткі, адбіраючы для мэтаў зямельнай рэформы толькі непатрэбныя ім абрэзкі і няўжыткі, даючы ім тысячы лазеек абыйсьці закон аб прымусовым выкупе,—усё-ж такі дае магчымасьць набыць на ўласнасьць заможнаму селяніну кавалак зямлі, пакідаючы мала-і безьзямельнага селяніна ў разьбітага карыта. Гэты устаў аб парцэляцыі і асад-

ніцтве шмат напамінае вядомую Сталыпінскую рэформу ў Расеі, аснаўным заданьнем якой было эканамічнае ўзмацаваньне „кулакоў“, як уплывовага і „благонадёжнага“ элемэнту ў вёсцы, з мэтай павялічыць палітычныя сілы абшарніцтва, ствараючы новы кадр ягоных саюзьнікаў.

Але гаспадарчыя абставіны зьмяніліся. Спадак польскай маркі зьвёў да нуля сялянскія ашчаднасьці. Эканамічны дабрабыт сялянства шмат пагоршыўся. Хоць цэны на сельска-гаспадарчыя прадукты для работнікаў у гарадох, калі прыняць над увагу іхнія нізкія заработкі, і стаяць дужа высокія (прычынай гэтага зьяўляецца спэкуляцыя пасрэднікаў), але гэтыя цэны ня могуць задаволіць селяніна ў параўнаньні з цэнамі на патрэбныя яму прамысловыя вырабы. Пад цяжарам інфляцыйнага (абясцэненьне папяровых грошаў з прычыны пастаяннага друкаваньня іх) і пасрэдных падаткаў *сялянская вёска бяднее на роўні з гарадзкім пралетарыятам.*

Што гэта так, сьцьвярджае нават кансэрватыўная газэта „Czas“, на старонках якой п. Гупка, абшарнік і вораг зямельнай рэформы піша:

> „У вёсках, дзе няма заработкаў, селянін прымушаны прадаваць быдла, каб задаволіць безадкладныя свае патрэбы і патрэбы сваей сям'і, часам і каня з поўнай сьвядомасьцю, што вясною другога ня купіць.
>
> ... І багацейшы колькінаццаць марговы селянін спакарнеў і пасмутнеў.
>
> ... Аб праслаўляемым дасюль Сойме і ўрадзе выражаецца з усё узрастаючым нездавольствам. Для пястоўцаў—недаверые і нездавольства!“
>
> „У гэткіх варунках--цешыцца пан Гупка—зямельная рэформа ня можа быць праведзена. Селянін у Польшчы раптам зьбяднеў і ня мае за што купіць зямлі.“

Пан Гупка, як і ягоныя калегі з нашага віленскага „Słowa“ думаюць і, зусім слушна, што дзякуючы гэтаму зямельная рэформа застанецца пустою паперкай і зьдзейсьніць яе будзе немагчыма; селянін цяпер ня мае магчымасьці купіць зямлю, і іх маёнткі застануцца цэлымі.

Але гэтае абядненьне сялянства мае і іншыя староны. Сялянства ня можа ўжо здаволіцца пястоўскай зямельнай рэформай; высоўваецца лёзунг пазбаўленьня абшарнікаў уласнасьці *бяз выкупу.* З гэтым лёзунгам прымушаны былі йсьці ў часе выбараў нават нашыя „крэсовыя“ вызваленцы, аб гэтым сьведчаць пастановы віленскай канфэрэнцыі партыі „Wyzwolenia“. гэты лёзунг раздаваўся і на апошнім зьездзе „Wyzwolenia“ ў Варшаве. Гэта ўняслo раскол і ў партыю Пяста, адкалоўшы перш групу Донбскага, а ў апошні мамэнт, якраз пры абмяркаваньні закону аб асадніцтве і парцэляцыі, і групу Плюты, што прычынілася нават да адстаўкі хьена-пястоўскага ўраду.

Лёзунг гэты не зьяўляецца вынікам агітацыйнай працы. Гэта неадкладная патрэба сялянскіх масаў. І ўсе правадыры т. зв. сялянскіх польскіх партыяў, не выключаючы і вызваленцаў, *сьвядома ўхіляюцца ад яго,* пушчаюць яго міма вушэй, таксама як і лёзунг „работніцка-сялянскай салідарасьці“. Доказам гэтаму ўхвалы Варшаўскага зьезду „Wyzwolenia“ і Jednaści Ludowej“, дзе зноў такі прыняты рэзалюцыі аб прымусовым выкупе.

Сяляне цяпер павінны зразумець, што надзеі, якія імі ўскладаліся на „Wyzwolenie“ і пястоўцаў, ніколі ня зьдзейсьняцца, што здабыць сабе зямлю, яны змогуць толькі ў хаўрусе з работнікамі, якія зьяўляюцца іх натуральнымі саюзьнікамі. І гэтая сьвядомасьць усё больш і больш пашыраецца сярод шырокіх слаёў працоўнага сялянства.

**Кумельган.**

# Трыумф міру...

**(Копп аб адносінах паміж С. С. Р. Р. і Польшчай).**

Прадстаўнік С. С. Р. Р. Копп, які нядаўна, не зрабіўшы „ні мосту, ні бар'еру“ ў Варшаве, але які здалеў зрабіць можа ня горшую дарогу — у аб'езд Польшчы—праз Латвію, Эстонію і Літву, дае ў „Роста“ вельмі цікавыя інфармацыі аб суседзкіх адносінах С. С. Р. Р. да ўсіх тых сумежных гаспадарстваў, якія аддзяляюць ці злучаюць вялікі ўсходні саюз з прамысловаю Эўропай...

Копп вельмі прыхільна гавора аб „мірным і карэктным тоне апошніх“ заяваў п.п. Дмоўскага і Сэйды, якія відаць жадалі-б хутчэй нарыхтаваць нармальныя адносіны Польшчы з С. С. Р. Р. Але зусім інакш гавора і трымаецца, паводле слоў п. Коппа, польская лявіца, у „словах якой чутна брацаньне аружжам“... „Калі ўспомніць, казаў Копп, што лявіца ўчора была ўрадам і мае нямала шансаў ізноў зрабіцца ўрадам заўтра, дык трэба быць глухім і сьляпым, каб ня лічыцца з выступленьнем лявіцы, як з паважным палітычным фактам. Радавыя Рэспублікі павінны прыняць да ведама і добра ўцяміць сабе той факт, што значныя кругі польскага грамадзянства імкнуцца не да паляпшэньня, але наадварот—да пагаршэньня адносінаў з С. С. Р. Р. і думаюць не аб умацаваньні міру, але носяцца з плянамі авантураў, якімі так багата была эра Пілсудскага“... І на жаль, гэтыя настроі, кажа Копп, маюць уплыў і на ўрад...—Нават мін. Дмоўскі, у сваім экспозэ ў Сэнаце, дапраўды казаў аб магчымасьці паўтарэньня 1920 г., апэлюючы да Францыі аб дапамозе заўчасу... Копп кажа, што польскі ўрад няслушна закідае ўраду С. С. Р. Р., быццам ён „уносіць палітычны мамэнт у чыста эканамічныя пытаньні“. Але-ж ня радавы ўрад ўносіць палітыку у эканамічнае жыцьцё Эўропы, пасылаючы войскі ў Нямеччыну, ўмешываючыся ў яе ўнутраное жыцьцё, руйнуючы нядаўна йшчэ красаваўшыя яе абшары... Ня радавы ўрад уносіць гэтую самую палітыку і ў адносіны з Польшчай. Наадварот — ён якраз так ставіць справу, каб зусім вызваліць эканамічныя стасункі,—гандлёвы абмен і транзыт паміж С. С. Р. Р. і Эўропай ад усякага ўплыву „тых праяваў імпэрыялістычнай палітыкі, якая ляжыць цяжарам над Сярэдняй Эўропай і сьпіхае яе ў пропасьць новай вайны і эканамічнага зруйнаваньня“... Ён якраз і дамагаўся ад Польшчы такой формулы транзыту, якая-б „гарантавала народам С. С. Р. Р. вольны выхад на заходні рынак пры ўсялякіх палітычных варунках“... І якраз Польшча, відаць, пад уплывам указаных „праяваў“, не згадзілася на гэтае „вызваленьне эканомікі ад палітыкі“...

Польскі ўрад закідае С. С. Р. Р., што ягоны ўрад не выпаўняе Рыскага Трактату... Але Копп кажа, што Польшча таксама не выпаўняе яго з свайго боку...

Копп закідае Польшчы „арганізацыю ў 1921 г. „украінскай Жэлігоўшчыны“, аб якой можа хутка „раскажа Пілсудскі ў сваім чародным „odczycie“ з поўнай адкравеннасьцю“... „Перакідываемыя з польскага боку бандыцкія аружныя аддзелы нарабілі таксама шмат матар'яльных стратаў С. С. Р. Р., і абавязак Польшчы, на точным аснаваньні Рыскага Трактату, зьвярнуць гэтыя дзясяткі мільёнаў залатых рублёў“ пагранічнаму насяленьню... Толькі тады С. С. Р. Р. будзе ўзаемна выпаўняць умову...

„Хаця тэорыя „пасоўваньня на ўсход“ мэтадамі ген. Жэлігоўскага ўжо быццам адкінута (толькі п. Вітас яшчэ нейкім рэхам адгукваецца на гэты лёзунг „эры Пілсудскага... М.), але на кожным кроку і цяпер спатыкаем вялікія ненармальнасьці“, кажа Копп.

Дапраўды—да С.С.Р.Р. можна ўжо паслаць тэлеграму з любога месца зямной паверхні — з Амэрыкі, Японіі, нават (Воровскій!..) з Швайцарыі. Але з сумежнай Польшчы, на трэці год істнаваньня мірнага трактату нават гэткай малай рэчы зрабіць ня можна... І гэта—ня гледзячы на тое, што Польшча падпісала паштова-тэлеграфную ўмову з С.С.Р.Р.... Чамусьці толькі гэтая ўмова дагэтуль не ратыфікавана Соймам, што і дае магчымасьць гэткім зьявішчам... Далей, — санітарны нагляд за радавымі грамадзянамі ўва ўсіх краёх ужо спынены. Толькі польскі ўрад дагэтуль яшчэ трымае здаровых людзей па два тыдні ў санітарных пунктах, ня гледзячы на таксама падпісаную ім санітарную ўмову, якая даўно ўжо на паперы ўрэгулявала гэтае пытаньне, але якая таксама не ратыфікавана Соймам.

Копп дадае, што той мэтад „рэпатрыяцыі“, якім карыстаецца Польскі ўрад, выкідаючы праз сваю ўсходнюю граніцу тысячы „непажаданых“ для яго людзей, ня пытаючыся нават радавага ўраду (як гэта толькі што зроблена, хаця і неўдалеся... паміж іншымі — з заведамым грамадзянінам Польшчы праваслаўным багасловам п. Нядзельскім... М...)—таксама не зьяўляецца дакладным і лёяльным выпаўненьнем Рыскага Трактату...

Вельмі важны агульны вывад Коппа з усяго, што ён казаў аб Польшчы.--„Мы, зразумела, вельмі ахвотна прымаем пажаданьні польскага ўраду аб заключэньні гандлёвай умовы і іншых паразуменьняў эканамічнага характару. Але наша агульная ацэнка (адносінаў Польшчы) астаецца як і даўней нязьменнай, і мы й надалей будзем зварочваць увагу працоўных масаў Рад. Рэспублік на неабходнасьць найвялікшай асьцярожнасьці і догляду адносна да найвялікшага нашага заходняга суседа“.

Што гэта значыць у тлумачэньні на простую мову, лёгка зразумее кожны...

А для нас беларусаў усё гэта перадусім азначае, што нашае народнае цела, парэзанае напаловы і падзеленае паміж гэтых, на словах мірных, але на дзеле глыбока і прынцыпова варожых „суседзяў“, будзе і надалей разгароджана калючым дротам так, што з аднэй палавіны ня можна будзе нават перагукнуцца з другой... Калі гэтаму „міру“ будзе канец — яшчэ ня відаць...

І гэта робіцца з жывым народам у XX сталецьці хрысьціянскай эры.. пасьля Вялікай вайны, якая вялася пад лёзунгам вызваленьня малых народаў ад паняволеньня вялікшымі!.. Гэта зроблена і робіцца, як тымі, хто перамог у рэвалюцыі, абвесьціўшы „самавызначэньне ўсіх народаў“, таксама і тымі, хто сам у працягу 150 гадоў славіў ненавісьць да сваіх катаў-падзяліцеляў...

Гэта ўсё робіцца на 5 год „міру“, вялікага Вэрсальскага міру, „стварыўшага новую Эўропу“...

Ці-ж не зьяўляецца вельмі сымвалічным для гэтай „мірнай“ Эўропы тое, што нарвэскі парлямант, якому вядомы Нобэль у сваім тэстамэнце даручыў штогодна выдаваць прэміі (награды) найбольш карысным для людзкасьці дзеячам навукі, штукі і палітыкі, паміж іншым і дзеячам на карысьць агульналюдзкага міру,—у гэтым пятым гаду істнаваньня „Вэрсальскага міру“, не знайшоў каму аддаць „прэмію міру“!...

А здаецца ўсё—ад п. Пуанкарэ... аж да п. Сэйды—толькі і гавораць аб міры, толькі і „працуюць дзеля забесьпячэньня міру“...

**М.**

---

ГРАМАДЗЯНЕ! Дарагоуля расьцецьь. Выдаваньне цяпер газэты вымагае вялікіх коштау. Зьбірайце сярод знаёмых ахвяры на беларускі прэсовы фонд! Падтрымлівайце сваю газэту акуратнай высылкай падпісных грошай. Заахвочвайце да падпіскі другіх!

---

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

### Развал урадовай большасьці. Адстаўка Хьена-Пястоўскага ўраду.

У пятніцу а 2 гад. 30 мін. дайшло да расколу ў Клюбе пястоўцаў з прычыны уставы аб асадніцтве і парцэляцыі. Частка пястоўцаў на чале з паслом Плютай заявіла, што не згаджаецца з праектам уставы і жадаюць вольнай рукі пры галасаваньні. Старшыня пястоўцаў п. Дэнбскі заявіў, што гэтага ня можа дапусьціць. Група Плюты вышлі з клюбу Пяста.

З гэтай прычыны маршалак Сойму п. Ратай злажыў абавязкі маршалка. Паседжаньне Сойму зачынена і вызначана на панядзелак.

Зараз-жа распачаліся нарады паасобных соймавых клюбаў у зьвязку з злажыўшайся сітуацыяй. Разглядалася справа ці павінен урад падацца ў адстаўку ці паставіць у Сойме пытаньне аб даверыі.

А 8 гадз. вечарам габінэт пасьля нарады аднагалосна пастанавіў падацца ў адстаўку, дзеля таго, што ўжо ня мае ў Сойме большасьці.

А 10 гадз. вечарам Старшыня Рады Міністраў п. Вітас пабываў у Прэзыдэнта і ўручыў яму адстаўку габінэту. Прэзыдэнт заставіў за сабою права падумаць. У суботу мела адбыцца нарада Прэзыдэнта з лідэрамі клюбаў быўшай большасьці, пасьля чаго Прэзыдэнт выявіць сваю пастанову.

---

„Robotnik“ зазначае, што ніколі яшчэ Польшч не перажывала гэткага катастрафальнага гаспадарчага крызісу як цяпер, ніколі спэкуляцыя не даходзіла да гэткага шалу, а палажэньне працоўных масаў так цяжкім, як пры сучасным хьена-пястоўскім урадзе.

Параўноўваючы сучасныя і даваенныя цэны па курсу залатога рубля, „Robotnik“ даказвае, што цана масла і яек і тлушчу паднялася на 20—25 прац., малака на 100 прац., пшанічная мука на 20 прац., мяса і жыта ўжо дайшлі, а цукер перавысіў, да перадваеннай цаны. Яшчэ больш падняліся цэны ў параўнаньні з даваеннымі на прамысловыя вырабы і вугаль. А тым часам плата работнікам, пэнсіі ўрадоўцам стаяць шмат ніжэй перадваенных, таксама, як цана на сялянскія прадукты ў вёсках стаіць вельмі нізка. Цэны на ўсё узьвінцілі спэкулянты, нажыўшы вялізарныя капіталы коштам дабрабыту шырокіх працоўных масаў. У той час, калі перад вайной на кожнага жыхара ў Польшчы ў сярэднім прыходзілася па 10 даляраў, цяпер пры эмісіі папяровых грошаў у 53 трыльёны прыходзіцца толькі па паўдаляра.

---

Мы ўжо паведамлялі, што п. віцэ-старшыня міністраў Корфанты вёў перагаворы з жыдоўскімі прамыслоўцамі, банкірамі і купцамі аб дапамозе дзяржаўнаму скарбу. Жыдоўскія купцы паставілі варункі, дазвол свабоднага гандлю валютамі. „Kurjer Polski“ паведамляе, што ўрад мае замер задаволіць гэтае жаданьне валютных спэкулянтаў.

---

Ужо колькі дзён ходзяць чуткі аб тым, што міністар фінансаў п. Кухарскі хутка падасца ў адстаўку. Прычынай адстаўкі зьяўляецца конфлікт пана Кухарскага з фінансавай радай. Згодна з умовай Хьены з Пястам, міністрам фінансаў павінен быць абавязкова эндэк, дзеля гэтага кандыдатамі на міністра скарбу зьяўляюцца Глонбіньскі і Зьдзехоўскі.

## С. С. Р. Р.

У польскіх газэтах зьявілася вельмі важная для Беларусаў вестка: Усерасейскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (ВЦІК) пастанавіў утварыць Камісію, якая павінна вызначыць граніцы паміж Расейскай і Беларускай Радавымі Рэспублікамі. Мо' ўрэшце запраўды зьдзейсьніцца агульнае дамаганьне беларускага народу аб пашырэньні межаў Радавае Беларусі на ўсе этнаграфічна беларускія землі?!...

---

У пачатку студзеня адбудзецца II Зьезд Радаў С. С. Р. Р. Прадстаўніцтва на гэты зьезд устаноўлена гэткім спосабам: Р. С. Ф. С. Р.—1068 дэлегатаў, Украіна—293 дэл., Беларусь—17 дэл., Каўказкая Фэдэрацыя—61 дэл. Галоўным заданьнем зьезду будзе зацьверджаньне канстытуцыі саюзу, а таксама дапаўненьне альбо зьмена некаторых пунктаў канстытуцыі. Далей Зьезд разгледзіць дзейнасьць ураду і пpыме рэзалюцыі ў справе арганізацыі прамысловасьці.

## АНГЛІЯ.

Паседжаньне ангельскага парляманту, якое перш было вызначана на 8 студзеня 1924 г., будзе адложана прынамсі на тыдзень.

Габінэт Бальдвіна, з якога ў выніках выбараў, выйшлі 8 міністраў, будзе часова папоўнены.

Бальдвін адбыў канфэрэнцыю з лідэрам лібэралаў Асквітам, а пасьля з лідэрам Работніцкай партыі Мак-Дапальдам.

Выканаўчы Камітэт Работніцкай Партыі прыняў рэзалюцыю, ў якой абвяшчае, што парляманцкая фракцыя Работніцкай Партыі займе апазыцыйнае становішча ў Палаце Гмінаў. У выпадку даручэньня Работніцкай Партыі ўтварыць новы габінэт, партыя возьме на сябе адказнасьць за ўрад, ня шукаючы кампромісаў у форме коаліцыі з якой-небудзь буржуазнай партыяй. Прыняты пастановы, каб забясьпечыць партыю фінансамі на выпадак новых выбараў. Пастановы партыі прыняты кангрэсам трэд-юніонаў.

Работніцкая партыя ў сваей заграгічнай палітыцы будзе дамагацца неадкладнага прызнаньня ўраду Радавых Рэспублік de jure і спыненьня акупацыі Руры.

## ФРАНЦЫЯ.

Газэты паведамляюць, што францускі пасол у Лёндыне заявіў, што акупацыя Руры ня будзе спынена, пакуль немцы не заплацяць усей сумы адшкадаваньняў.

## Злучаныя Штаты.

Злучаныя Штаты згадзіліся прыняць учасьце ў абодвых камітэтах рэчазнаўцаў, якія маюць заданьнем устанавіць платаздольнасьць Нямеччыны.

# З Польскага Сойму.

Хьена-пястоўская большасьць імкнецца як найхутчэй правясьці закон аб парцэляцыі і асадніцтве, які зьяўляецца вынікам умовы паміж вялікімі абшарнікамі і багатымі вітасоўскімі польскімі сялянамі. Мы ўжо раней пісалі, што гэты закон нічога не дае беднаму селяніну, а асабліва нашаму беларускаму, бо зямлю можа набыць толькі той, хто заплаціць за яе вялікія грошы. Да больш поўнага разгляду гэтага закону мы яшчэ вернемся. Польская лявіца з P.P.S. і Wyzwoleniem на чале, ня гледзячы на тое, што мелі вялікі ўплыў на ўрад у часе ўрадаваньня ген. Сікорскага, а таксама яшчэ раней пры Пілсудскім, не паклапаціліся правясьці праз Сойм гэты закон у прыхільным для беднага сялянства і безьзямельных сэнсе, і цяцер у Сойме, калі яны ня маюць большасьці, занялі няпрымірымую пазыцыю да хьена-пястоўскага праекту. Паседжаньне Сойму, на якім разглядаўся гэты законапраект, было з гэтай прычыны вельмі бурлівым.

Справаздачу аб гэтым законе зрабіў п. **Макульскі** (Пяст), які даводзіў, што закон дужа добры, бо прадбачыць на распарцэляваньне кожны год 220.000 гэктараў зямлі.

Пас. **Квапінскі** (P.P.S.) зазначыў, што 12 мільёнаў сялянскага насяленьня церпіць нэндзу, а тым часам 20 тысячаў абшарнікаў уладаюць больш як $^1/_3$ усяе зямлі. Калі Польшчы пагражала небясьпека ў 1920 г., тады, каб заахвоціць сялян ваеваць, правіца галасавала за закон аб правядзеньні зямельнай рэформы, але калі падпісаны быў мір проціў правядзеньня ў жыцьцё зямельнае рэформы яна распачала бяспрыкладную барацьбу і толькі, калі зрабілі ўмову з Пястоўцамі, унесьлі гэты праект, які зьўляецца запрапашчэньнем зямельнай рэформы. Гэты закон пазваляе абшарнікам утрымаць маёнтак да 1120 гэктараў. Што-ж тады застаецца для парцэляцыі? І хто яе будзе праводзіць! Тыя самыя аслаўленыя парцэляцыйныя суполкі. Пястоўцы ўласнымі рукамі закавалі селяніна ў кайданы абшарніцкай няволі.

Далей Квапінскі прапануе ад імя P. P. S. гэткія падставы зямельнай рэформы: 1) у руках вялікіх земляўласьнікаў павінна застацца ня больш як 180 гэкт., рэшта пераходзіць на ўласнасьць дзяржавы бяз выкупу; 2) З гэтай зямлі робяцца дзялянкі ад 5 да 15 гэкт., залежна ад гатунку зямлі, гэтыя дзялянкі насамперш атрымоўваюць сельска-гаспад. работнікі (парабкі) і дробныя арандатары, якія праз пярцэляцыю данага абшару трацяць варштат працы, далей суседнія малазямельныя сяляне і г. д., патрэбы гарадоў і сельска гаспадарчыя каапэратывы павінны быць прыняты пад увагу; 3) Парабкі, якія працавалі ў фальварку 25 гадоў і шматгадовыя арандатары павінны атрымаць зямлю бясплатна, іншыя павінны заплаціць азначаныя сумы ў працягу 30 тадоў; 4) дзялянкі не павінны дзяліцца на больш дробныя, а зямля не павінна быць прадметам гандлю.

п **Станішкіс** (эндэк) зазначае, што сучасны закон зьяўляецца компромісам, які меў на мэце ўтварэньне ўраду польскай большасьці. У справе касьцельных земляў (аб чым мы падрабязна пісалі ў папярэднім нумары) эндэкі лічаць, што гэтыя землі зьяўляюцца бязспрэчнай уласнасьцю Касьцёла і могуць быць распарцэляваны толькі са згодай Касьцёла, а дзеля гэтага трэба яшчэ перад галасаваньнем атрымаць адказ ад Апостальскай Сталіцы (ад Папы).

п. **Дубановіч** (хр.-нар.) таксама бароніць правы духавенства на зямлю і заявіў, што яго партыя будзе галасаваць проціў законапраекту, калі ня будзе на гэта згоды Апостальскай Сталіцы.

П. **Панятоўскі** (Wyzw.) лічыць, што закон аб парцэляцыі касуе зямельную рэформу. Будзе адбывацца дзікая парцэляцыя і зямля дастанецца не таму, каму яна найбольш патрэбна, а таму, хто больш заплаціць. Законапраект не прадбачыць прымусовага выкупу. Так сама ня прадбачыцца сфінансаваньне зямельнай рэформы, без чаго закон гэты зьяўляецца толькі пяском у вочы выбаршчыкаў і дасьць магчымасьць шырокай спэкуляцыі; багатыя сяляне могуць яшчэ больш купіць зямлі, а бедныя нічога не атрымаюць. Ад міністра зямельнай рэформы залежыць колькі пакінуць вялікім абшарнікам зямлі, а вядома, хто цяпер займае міністэрскія крэслы. Гэты праект зьяўляецца пагаршэньнем дасюлешняга палажэньня і скасаваньнем зямельнай рэформы і дзеля гэтага прапануе зусім адкінуць гэты праект і запрапанаваць ураду апрацаваць якнайхутчэй новэлю да закону аб зямельнай рэформе з 15/VII—1920 г.

Віцэ-маршалак **Сэйда** даў слова п. Грэйсу. Але вызваленцы дамагаліся галасаваць іхную прапазыцыю. Распачаўся вялікі крык, так што Грэйс ня мог гаварыць. Быў абвешчаны перарыў. Пасьля перарыву прапазыцыя Панятоўскага была адкінута. За прапазыцыю галасавала 177, проціў 190.

П. **Грэйс** (кат.-люд.) гаварыў сярод нязвычайнага шуму і яго прамовы ніхто ня мог чуць. Віц.-Маршалак Сэйда прызваў паслоў Путка, Хамінскага, Балінскага, Баліна, Кардоўскага, Ваяводзкага, Дуру і Васыльчука да парадку за нарушэньне спакою. Гэта выклікала новую буру, што не дало магчымасьці гаварыць п. Зомэрштэйну (жыд. кола). В.-марш. запрапанаваў адлажыць абрады на чарговае паседжаньне, але проціў гэтага запратэставалі правіца і пястоўцы. Але дзеля шуму п. Зомэрштэйн, хоць застаўся па трыбуне, але гаварыць нічога ня мог. Пасол **Рудзінскі** запрапанаваў перарваць паседжаньне.

Віцэ-марш. **Сэйда** заяўляе, што за перарываньне прамоўцы (галасы: Ён зусім не гаварыў) праз галас, біцьцё ў пюльпіты і пяяньне, прызываю да парадку Навіцкага, Рудзінскага, Сэйду, Цьвякоўскага, Федарковіча, Начніцкага і кс. Станкевіча.

Пасол кс. Станкевіч і Начніцкі падыходзяць да віцэ-маршалка і заяўляюць, што яны сядзелі ціха.

Пас. **Рудзінскі**: Кепскіх пан мае даношчыкаў.

**Голас на правіцы**: Але-ж ксёндз Станкевіч пяяў.

**Голас на лявіцы**: На тое ён і ксёндз, каб пяяць.

Віцэ- марш. **Сэйда**: паслы Начніцкі і кс. Станкевіч заявілі, што ўчасьця ў галасе ня бралі, дзеля гэтага прызваньне іх да парадку бяру назад.

**Голас на лявіцы:** Хай п. маршалак назаве прозьвішча шпіка. Шпіка прызваць да парадку.

Шум і біцьцё ў пюльпіты трываюць далей.

Віцэ-марш. **Сэйда** выключыў паслоў Дуру, Баліна, Ваяводзкага, Путка і Васільчука на адно паседжаньне. Шум яшчэ ўзмацаваўся і п. Сэйда перарваў паседжаньне.

Пасьля перарыву абрады над уставай аб парцэляцыі адложаны на далей, а Сойм перайшоў да разгляду ўставы аб абавязковай вайсковай службе.

# З газэт.

## З прычыны exposé п. Грабскага.

У тым нумары „Змаганьня“ было надрукаваня exposé міністра асьветы, які заявіў, што ў Польшчы можа істнаваць толькі *польская* ўрадовая народная школа, хаця ў ёй можа быць дапушчана навучаньне і не папольску, калі дзеці—непалякі.

Гэтае туманнае выражэньне расшыфраваў зьезд польскага т-ва „opleki nad Kresami“ (копія прускае арганізацыі „гакатыстаў“), які гэтымі днямі адбыўся ў Варшаве *з учасьцем некалькіх міністраў*. Іменна гэтае ўчасьце міністраў надае арганізацыі польскіх гакатыстаў *поўурадовы характар*, і затым мы прыводзім тутака рэзалюцыю зьезду ў справе асьветы на „крэсах“, як *дапаўненьне* да exposé п. Грабскага.

У сказанай рэзалюцыі чытаем (паводле пераказу „Dzien. Wil.“):

„Агульны зьезд т-ва апекі над крэсамі лічыць патрэбным устанаўленьне праграмы асьветнае палітыкі на ўсходніх землях, якая павінна быць абаперта на гэткіх асновах: Публічная дзяржаўная школа, народная і сярэдняя, павінна зьяўляцца школай польскай і павінна мець польскую бібліатэку“.

Тут ужо аб роднай мове дзяцей нямашака гутаркі, і зусім ясна, што *тут* п. міністар асьветы—паміж „сваімі“—ня лічыў патрэбным успамінаць аб абавязку ўшанаваньня правоў „нацыянальных меншасьцяў“, забясьпечаных канстытуцыяй і вэрсальскім трактатам. А ў exposé ўспомніў толькі... дзеля Эўропы і Лігі Нацыяў, якая ў пачаўшайся надовячы сэсыі рады мае лішне ўжо многа спраў, датыкаючых Польшчу...

Асабліва характэрна ўсё гэта ў сувязі з нядаўным зачыненьнем польскаю ўладаю літоўскае гімназіі ў Сьвянцянах і беларускае ў Гарадку. Зьезд т-ва „апекі над крэсамі“ ў сваей рэзалюцыі пастанавіў:

„Выдаваньне канцэсіяў на прыватныя школы нацыянальных меншасьцяў павінна залежаць ад вышыні іх навуковага роўня і адносінаў да польскае дзяржаўнасьці“.

Вось-жа „практыка“ адміністрацыі ў Віленшчыне адносна да зачыняньня беларускіх школ паказала ўжо, як гэтае пажаданьне выглядае на дзеле: беларускія народныя школы зачыняюцца *фармальна* на тэй іменна аснове, што вучыцялі ня маюць патрэбных „кваліфікацыяў“, вымаганых дзеля адпаведнага „навуковага роўня“ школы,—але тыя-ж вучыцялі зусім не абніжаюць гэтага „роўня“, калі... згаджаюцца вучыць дзяцей не пабеларуску, а ў калечанай польскай мове... Дый зачыненьне беларускае гімназіі ў Гарадку, згодна з прызнаньнем „обстаўскае“ газэты, хоць і называецца афіцыяльна на „нізкі ровень навукі“, але запраўды мела зусім другую падставу. „Dzien. Wil.“ шчыра прызнаецца:

„А найгоршае—гэта тое, што нават бацькі-палякі пасылалі сваіх дзяцей у гэту школу, прываблены шумным назовам „гімназія“, бо Гарадок ня мае дагэтуль польскае сярэдняе школы, а найбліжэйшая ўрадовая гімназія знаходзіцца ў Вялейцы, за 40 вярстоў“.

Вось, тут, як кажуць, і вылазе шыла з мяшка! Польскае гімназіі ў Гарадку няма, тутэйшыя беларусы-каталікі, залічаныя да „палякоў“ (—праўдзівых палякоў там няма!), вучацца ў роднай беларускай гімназіі,—значыць трэба з гэтым скончыць! Трэба адкрыць польскую гімназію, а „няпрыемнага канкурэнта“—пазбыцца.

І пазбыліся.

„Dzien. Wil.“ мае надзею, што такі лёс сустрэне і другія беларускія гімназіі. Пры сучасным урадзе гэта магчыма...

# Агляд жыдоўскай прэсы.

(*Жыдоўская школьная справа. — Полёнізацыя і Польская Сацыялістычная Партыя.—Устава для Віленшчыны.—Проціў Жыдоўскага Кола*).

„Unzer Gedank“ гэтак характэрызуе справу жыдоўскае асьветы на крэсах і адносінаў да яе польскага ўраду:

„Дзьверы польскай народнай школы насьцеж адчынены для жыдоўскіх дзяцей. А гэта — дзякуючы полёнізацыі. З гэтай самай прычыны польская дзяржава выдае на польскую школу на крэсах адносна шмат больш, як на школы ў польскіх дзялянках. Але хто ведае, ці тут ня грае найбольшай ролі той факт, што тут істнуюць жыдоўскія школы, ад якіх трэба адцягнуць дзяцей і спэцыяльнае жаданьне зьнішчыць жаргонную культуру.“

Але калі-б жыдоўскіх пачатковых школаў ня было, калі-б польская народная школа была адзінай школай даступнай для жыдоўскіх дзяцей— ці-ж можна цьвердзіць, што і там жыдоўскаму дзіцяці ня будзе трудна дыхаць. Дзеля гэтага не патрэбна нават цыркуляраў. Выстарчыць практыка... Польская рэакцыя зьяўляецца праціўнікам асьветы і культуры нават для сваіх уласных масаў.

... Мы змагаемся за нацыянальную школу, бо пераконаны, што яна ёсьць адзінаю, якая можа задаволіць патрэбы жыдоўскіх масаў“.

„Unzer Folkscajtung“, даючы абразкі двуліцовай палітыкі Польскай Партыі Сацыялістычнай (P. P. S.) адносна да культурных праблемаў жыдоўскіх працоўных масаў, піша:

„Становішча P. P. S. у нацыянальнай справе, яе адносіны да патрэбаў і задачаў нацыянальных меншасьцяў зьяўляюцца наагул клясычным прыкладам палітычнай няшчырасьці, узорам палітыкі, якая выражаецца ў вядомай формуле: адзін шаг наперад, два назад... Але ўжо запраўдным скандалам зьяўляецца павядзеньне P. P. S. ў справе жыдоўскай школы.

У той час, калі жыдоўскія масы вядуць цяжкую няпрымірымую барацьбу за школу ў матчынай мове,—дамаганьне, слушнасьць якога прызнаюць ня толькі сацыялісты, але кожны шчыры дэмакрат—маюць проціў сябе ня толькі антысэмітаў рознага калібру, але і P. P. S.“

Што матарыялістычны чыньнік сьвядома ці нясьвядома грае ў грамадзкім жыцьці першарадную ролю, можа паслужыць факт, што жыдоўскае грамадзянства толькі цяпер, калі ягоным эканамічным правам (замыканьне крамаў у нядзелі і сьвяты) пагражае небясьпека, пачало энэргічна дамагацца асобнай уставы для Віленшчыны.

Гэта выражае п. Z. на шпальтах „Togu“, пішучы:

„Няпольская люднасьць Віленшчыны ніяк ня можа прымірыцца з гэткім палажэньнем. На ўласных плячах адчувае яна на кожным кроку пасьледствы палітыкі, якая знаёміць з годнай падзіву недальнавіднасьцю з спэцыфічнымі варункамі нашага краю адносна да Польшчы“.

„... Пануючая рэакцыя кпіць сабе з эканамічных патрэбаў люднасьці, з асобнасьцяў нашага краю, з рэлігійных і нацыянальных пачуцьцяў жыдоўскага грамадзянства“.

„... Паскольку гэта датыча толькі Віленшчыны, галосным рэхам павінна адазвацца нашае жаданьне да прадстаўнікоў усей дэмакратыі Польскай Рэспублікі:—уставы для Віленшчыны, якая мела-б на ўвазе, спэцыфічныя варункі краю.

Вы гэты лёзунг высунулі перад вырашэньнем віленскага пытаньня. Дзе-ж вашыя завярэньні?"

Пан Z. зварочваецца з добрай верай да польскай дэмакратыі, забываючы што яе галоўны прадстаўнік пасол Тугут азначыў нават мінімальныя дамаганьні жыдоў, як „znalezienie się odrazu na czwartem piętrze".

Гэтая-ж самая газэта абгаварвае ў абшырным артыкуле пад заг. „Кола круціцца" тактыку „Жыдоўскага Кола" ў сувязі з сьвежа-адбыўшыміся выбарамі ў прэзыдыум, якія зьяўляюцца яскравым доказам перамогі опортуністычнай палітыкі, якая вядзецца праз галіцыйскіх махераў, проціў застаўшамуся ў апазыцыі Грынбаўму.

„Tog" дадае:

„Характэрна, што ў выніку новых выбараў у кіраўнічыя органы „Кола" д-р Выгодзкі прымушаны быў заявіць, што ня чуецца зьвязаным у соймавай працы пастановамі „Кола".

Бо запраўды, чаго-ж можна спадзявацца ад „Кола", якое галасуе проціў жыдоўскіх школаў, падтрымлівае Хьена-Пяста ў яго палітыцы прывілеяў адносна абшарнікаў і г. д.

Чаго цяпер можна спадзявацца ад „Кола", калі апазыцыя яго пазбаўлена кіраўнічай ролі і ўся ўлада перайшла ў рукі некулькіх галіцыйскіх палітыкаў—прадстаўнікоў ортодоксаў?"

Урэшце артыкул канчаецца гэткімі словамі:

„Кола круціцца. Маем новы прэзыдыум, новага старшыню. Але нашая рэпрэзэнтацыя ў Сойме застаецца яшчэ ў руках неадказных опортуністаў. Хай Бог бароніць жыдоўскую люднасьць ад яе прыяцеляў, а ад ворагаў яна сама абароніцца!"

**М. Г.**

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ,

## ХРОНІКА.

**Беларускія абшарнікі.** У Вільні істнуе асобная арганізацыя польскіх абшарнікаў з Усходняе Беларусі пад назовам „Związek Polaków z Kresów Białoruskich (закардонных)".

Здаецца, што гэта *адзіная на ўвесь сьвет* польская арганізацыя, якая яшчэ захавала ў сваім назове слова „Беларусь".

Характэрна, што так званая „Polska Partja Socjalistyczna Litwy i Białorusi" пасьля далучэньня Заходняе Беларусі з м. Вільняй да Польшчы, адкінула словы „Litwy i Białorusi": п. п. Заштовты, Годводы і камп. раптам „пераканаліся", што наш край — гэта „искони польская область"....

**Прызыў 1902 году.** Як паведамляе польская газэта „Słowo", каля 50% прызваных на службу рэкрутаў 1902 году не зьявіліся на прызыў. Іх будуць прызываць другі раз.

## Весткі з вёскі.

**Пацаўская гміна**, Слонімскага пав.

Настала цяжкое жыцьцё. Бязьмерная даражыня прымусіла наша сялянства моцна задумацца аб сваім далейшым істнаваньні. З усіх бакоў толькі і чуеш, што ці доўга будзе трываць гэткае жыцьцё? І бязумоўна, калі гэтак будзе цягнуцца далей, калі даражыня будзе расьці так, як расьце цяпер, то нашаму сялянству хоць лажыся жыўцом у зямлю. Жыцьцё куды горай стала нават як у часы вайны. І ня дзіва, бо рэчы першае патрэбы на столькі падаражэлі, што і ні прыступіся да іх. Апэтыту крамнікаў няма меры. На свае тавары накладаваюць такія цэны, што аж мурашкі скрабуць па целу. А між тым здабыткі сялянскія цэняцца вельмі танна. Возьмем напрыклад: боты каштуюць 25 ці 30 мільёнаў, калі гэта перавясьці на жыта, то трэба 35—40 пудоў. Перад вайноюжа боты, нават добрыя, можна было купіць за 10 рублей, на што трэба было-бы 12—13 пудоў жыта. Розьніца вельмі вялікая.

Перад вайною работнік, каб купіць сабе боты, мусіў папрацаваць 20—25 дзён, цяпеража работнік, які атрымавае ў нас у дзень 200.000 польскіх марак, дзеля таго, каб купіць боты, павінен працаваць бяз малага паўгода. Акрамя ботаў патрэбна-ж і другая адзежына, якая таксама не адстае ў цане ад ботаў. Вось тут і жыві, выкручывайся з сям'ёю, маючы толькі 1 ці 2 дзесяціны зямлі і то ў вузенькіх шнурочках. Жыць-жа лепей кожнаму хочацца. Вось дзеля гэтага наша моладзь і прымушана такім жыцьцем рабіць патайныя пераходы ў Радавыя Рэспублікі, дзе, як кажуць, варункі жыцьця у шмат разоў лепшыя, як тут.

**Нікіфар Жальба.**

# Допісы.

## Беларусы у Латвіі.

### Тэатр на вёсцы.

У вёсцы Шнекава, Прыдруйскай гміны адбыўся 25 лістапада спэктакль. Тутэйшымі сялянамі артыстамі-аматорамі ў школцы былі пастаўлены „П. С. Х." Сучаснага і „Чужы каравай". Прымалі ўчасьце ў пастаноўцы Зофія Рукман, Яніна Касінская, Мікола Талерка, Адольф Вурбановіч, Мікола Невяроўскі і Уладзімір Лаўрыновіч, з дзяцей: Аміля Сінкевіч, Яніна Жук і Алесь Іваноўскі. Таксама гэтымі артыстамі-аматорамі была пастаўлена „П. С. Х." і ў школцы пры гміне. Спачатку гэтага школьнага году пачынаецца новы сэзон Шнёкаўскага вясковага беларуска-расейскага тэатру. Дзякуючы вялікай рупнасьці нашага вучыцеля Міколы Т., якім летась былі зарганізаваны дзьве трупы дзіцячага і дарослага тэатру. Дзяцьмі была выстаўлена 1) „Betlejka u 5 aktach", 2) „Стараста", 3) „У судзьдзі", 4) „Нямыя ў цырульні". Дарослымі—увесь рэпэртуар беларускіх п'ес, якія падходзілі да сялянскай невялічкай сцэны. Ставілася і на расейскай і на беларускай мове дзеля таго, што шмат ёсьць прыезджых небеларусаў. Але найлепш прайшлі беларускія пьесы. Ставілі: 1) Міхалка, 2) Модны шляхцюк, 3) Конскі партрэт, 4) Зьбянтэжаны Саўка, 5) Пасланец, 6) „Атрута" Гарэцкага і інш.

На грошы, атрыманныя ад спэктакля, была зроблена дзецям ёлка, на якой былі прысмакі і таксама дзецям-артыстам раздаены падарункі—беларускія кніжкі. Сёлета будзе горш, дзеля таго, што няма ўжо таго выбару п'ес і цяжка дастаць.

st. Indra. **Гэндаляў.**

## Сельска-гаспадарскія парады.

### Не марнуйце птушынае сьмяцьцё!

Не зважаючы на сваю вялізарную вартасьць, птушыны гной да гэтага часу ня маець ніякага разумнага ўжытку ў сялянскай гаспадарцы. Праўда, птушынага гною зьбіраецца ў гаспадара ня так шмат, але трэба ведаць, што **адзін пуд** курынага сьмяцьця даець столькі карысьці расьлінам, колькі могуць даць **два вазы** добрага хляўнога гною. А ў гаспадарцы, калі зьбіраць як трэба, заўсёды можна сабраць некалькі пудоў птушынага гною. І гэтых колькі пудоў якраз можа хапіць на кавалак агароду пад варава.

На скольки дорага птушынае сьмяцьцё, як гной, можна зразумець з таго, што таўчонае перагніўшае птушынае сьмецьцё па колькі тысячаў пудоў прывазілася к нам у Эўропу з паўднёвай Амэрыкі (пэруанскае гуано) і прадавалася тут надта дорага. Птушынае сьмяцьцё маець у сабе шмат азоту—тэй стравы для расьлінаў, без якой яны ня могуць жыць.

З птушынага гною найлепшы галубіны і курыны. Вуціны і гусіны лічыцца ў два разы горшы, але ўсё-ж такі разы ў два лепшы, чым гной кароўі.

З той прычыны, што птушынага гною ў гаспадарцы зьбіраецца ня так шмат, як конскага або кароўяга, дык ужываць яго трэба болей ашчэдна. Зьбіраць і трымаць птушынае сьмяцьцё трэба сухім, бо калі трымаць яго ў кучы сырым або мокрым, дык яно будзе гніць і траціць ад гэтага сваю вартасьць.

Перад ужываньнем, сабранае птушынае сьмяцьцё трэба высушыць на сонцы або на печы, а пасьля стаўчы на муку і гэтай мукой пасыпаць лехі (грады) з варавам. Пасыпаўшы гной, трэба зьмяшаць яго добра граблямі з зямлёй. Пасыпаць найлепей перад дажджом, або пасьля дажджу; пасыпаючы гной у сухую пагоду, трэба добра паліць лехі вадой пасьля ўгноіваньня.

Трэба ведаць, што пасыпаць лехі таўчоным птушыным гноем лепей за тыдзень перад саджэньнем або пасевам варава—або тады, як ужо варава ўзойдзець, кранецца ў рост. У ўсходах і ў маладых зусім расьлінкаў птушыны гной можа перапаліць карэньні.

Сьцёртага на муку птушынага гною высяваецца па 1—1½ фунты на сажань. Рабіць пасыпку можна разы два-тры ад пачатку вясны да першай палавіны лета.

Найлепш ужываць птушыны гной так. Назьбіраўшы гною ў вялікую пасудзіну (цэбар, кадзь, бочку) трэба заліць яго гарачай вадой, каб ён запарыўся. Пасьля, як астынець, у пасудзіну можна даліць сьцюдзёнай вады. Залітаму вадой гною трэба даць тыдні паўтары-два пастаяць, каб юшка высьпела. Пасьля гэтага бяруць жыжку з пасудзіны і паліваюць варава. Трэба ўважаць, каб жыжка была ня надта моцная, бо тады яна папаліць варава. На 10 вядзёр вады трэба браць адно вядро гною. Паліваць жыжкай варава лепей пасьля дажджу (ў гэткім разе можна ўжываць жыжку гусьцейшую). У сухую пагоду паліваць трэба зусім жыдкай жыжкай. Паліваць можна па аднаму разу ў тыдзень. Найлепей памагаець такая паліўка капуснай расадзе і наагул тады, калі расьлінкі яшчэ маладыя. Ад паліваньня гэткай жыжкай яны надта шпарка ідуць у рост. Добра паліваць ёю і тытунь. Паліваць лехі з варавам лепей на ноч.

**Я. П.**

## Курс на грошы.

**Варшава, 14-га Сьнежня.**

(Афіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 4.545.000 |
| Фунты штэрл. . . . . . . | 19.800.000 |
| Франкі франц. . . . . . . | 237.000 |
| Франкі швайц. . . . . . | 773.000 |
| Франкі бэльгійск. . . . . . | 203.500 |
| Ліры італьян. . . . . . . | 157.000 |
| Польскі злоты . . . . . . | 580.000 |



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.